БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

21 чэрвеня 1994 г.
Аўторак
№ 67(13784)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:



Малюе Віктар ДУБОВІК






Салдаты Айчыннай... Няскораныя, моцныя верай сваёй у лепшае жыццё, яны і зараз захоўваюць вернасць выпакутаваным ідэалам, за якія не шкадавалі сябе на франтах самай страшнай вайны XX стагоддзя.

Віктар Парфёнавіч СІДАРЭВІЧ, якога вы бачыце на фотаздымку, наш зямляк. З 1944 года ён у арміі. За фарсіраванне Одэра быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі і стаў камандзірам зброеўстаноўкі. Вайну скончыў у Берліне.

У мірны час працаваў камбайнерам на палетках калгаса імя Дзяржынскага ў Маладзечанскім раёне.

Фота У.МЯЖЭВІЧА.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Забіты прыхільнік камуністаў

*Не абышлася без крыві перадвыбарная кампанія на Гомельшчыне.*

Заўтра ў абласным цэнтры адбудзецца пахаванне былога выкладчыка Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту, у апошні час пенсіянера, вартаўніка сярэдняй школы № 56 горада Гомеля Юрыя Рыхардавіча Рашке. Юрый Рыхардавіч знаходзіўся ў групе падтрымкі кандыдата ў прэзідэнты рэспублікі ад партыі камуністаў Васіля Новікава. Паводле сведчання жонкі, у той ракавы вечар ён з агітацыйнымі лістоўкамі выйшаў з дому, каб расклеіць іх. Дадому больш не вярнуўся. Раніцай яго, жорстка збітага, без дакументаў і лістовак, знайшлі ў раёне Гомельскага дзяржаўнага універсітэта. Не апрытомнеўшы, пенсіянер памёр у абласной бальніцы.

### Трансляцыя зноў была спынена

*Не паспела Цэнтральная камісія па выбарах разабрацца з прычынамі зрыву радыёперадачы з удзелам С.Шушкевіча раніцай 8 чэрвеня, як новая заява лягла на стол Старшыні Цэнтрвыбаркама Аляксандра Абрамовіча.*

"Як сведчаць шматлікія тэлефонныя званкі выбаршчыкаў, у час майго выступлення па беларускім радыё 11 чэрвеня ў радзе раёнаў рэспублікі зноў былі адключаны радыётрансляцыйныя станцыі, — піша Станіслаў Шушкевіч. — Расцэньваю гэта як парушэнне Закона аб выбарах прэзідэнта, рашэнняў і пастаноў Цэнтральнай камісіі па выбарах з боку кіраўнікоў Дзяржтэлерадыё".

### Да інцыдэнту з А.Лукашэнкам

*Прэс–служба Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь зрабіла паведамленне, у якім гаворыцца, што 17 чэрвеня ў 7 гадзін 15 мінут у Лёзненскі РАУС Віцебскай вобласці паступіў тэлефонны званок грамадзяніна, які назваўся Іванам Ціцянковым — даверанай асобай кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі.*

З яго слоў вынікала, што напярэдадні вечарам у 23.15 недалёка ад Віцебска адбыўся абстрэл аўтамашыны, у якой ехаў А.Лукашэнка, з абагнаўшай яе на вялікай скорасці машыны замежнай маркі. У Лёзненскі раён выехала аператыўна-следчая група праваахоўных органаў. У левай задняй дзверцы "Мерседэса", на якім ехаў А.Лукашэнка, знойдзена дзірка ад кулі. Аднак ход следства ўскладняецца тым, што А.Лукашэнка і суправаджаючыя яго асобы паехалі з месца здарэння, а паведамленне ў РАУС па незразумелых прычынах паступіла толькі праз восем гадзін пасля інцыдэнту.

### Маскве не абысціся без Беларусі?

*Два гады спатрэбілася постперабудовачнай Маскве, каб успомніць: яшчэ нядаўна Беларусь рэгулярна забяспечвала расійскую сталіцу харчаваннем. Але разарваць існаваўшыя сувязі аказалася прасцей, чым аднавіць іх. Гэта яшчэ раз пацвердзіў трэці па ліку маскоўскі аптовы харчовы кірмаш–94, удзел у якім прынялі і беларускія аграпрамысловыя прадпрыемствы.*

Адзін з арганізатараў кірмашу — першы намеснік віцэ-прэм'ера ўрада Масквы Уладзімір Трапакоў лічыць:

— Два папярэднія гады, калі практычна абарваліся нашы шматгадовыя ўзаемавыгадныя сувязі, скажу прама, стаўка на выключна расійскія рэгіёны не прынесла чаканага выніку. Федэральных фондаў харчавання, якія выдзяляюцца ўрадам Расіі, Маскве недастаткова. І мы зноў звяртаем свае позіркі на блізкае замежжа. Асабліва вялікія надзеі звязваем з Рэспублікай Беларусь. Падпісаны буйныя кантракты на пастаўку харчовых тавараў з Беларусі ў расійскую сталіцу. Думаю, што гэта першая ластаўка — адкрыюцца шлюзы для аднаўлення нашых узаемавыгадных гандлёвых адносін. З Беларусі патокам пойдуць у Маскву мяса-малочная прадукцыя, бульба, агародніна, тэхнічныя культуры, з Масквы — машыны, абсталяванне, тэхналогіі, гаруча-змазачныя матэрыялы.

### Афіцэры будучага стагоддзя

*У нядзелю, 19 чэрвеня, на плошчы Незалежнасці ў беларускай сталіцы адбылася ўрачыстая цырымонія пасвячэння ў афіцэры і выпуску выхаванцаў ваенна–навучальных устаноў Рэспублікі Беларусь.*

Тут, у сэрцы суверэннай дзяржавы, атрымалі дыпломы і знакі аб заканчэнні вучобы маладыя лейтэнанты з мінскіх вышэйшага ваеннага інжынернага і вышэйшага ваеннага каманднага вучылішчаў. Упершыню ва ўрачыстасцях, якія становяцца ўжо традыцыйнымі, прынялі ўдзел выпускнікі Мінскага ваеннага суворАўскага вучылішча. Літаральна з рук у рукі лейтэнанты перадалі эстафету служэння Айчыне сваёй юнай змене — афіцэрам XXI стагоддзя. Тым больш сімвалічна, што цырыманіял праходзіў напярэдадні святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

БЕЛІНФАРМ.

### Звіняць цымбалы ў Паставах

*Міністэрства культуры Беларусі, Віцебскае абласное ўпраўленне культуры і Пастаўскі райвыканкам правялі ў Паставах фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік".*

А перад тым музычныя школы вобласці наладзілі конкурс выканаўцаў на народных інструментах, правялі выставу-кірмаш вырабаў народных майстроў.

Уладзімір МІХНО.

### Задача – адраджэнне

*Нядаўна калектыў Радашковіцкай сярэдняй школы сустрэўся з народным паэтам Беларусі Нілам Гілевічам.*

— Абуджэнне нацыянальнай свядомасці ў дзяцей — галоўная задача школы, — лічыць Наталля Маскалевіч, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце. Дзеля гэтага тут робіцца многае. Год назад быў створаны фальклорны ансамбль "Купалінка", гістарычна-краязнаўчы гурток. Да вучняў неаднойчы прыязджалі на сустрэчы вядомыя паэты і пісьменнікі, артысты.

### Хто сказаў, што 13 – нешчаслівая лічба?

*У трынаццаты раз прайшлі традыцыйныя на Міншчыне спаборніцтвы па турысцкаму марафону "Кіламетры здароўя".*

У іх удзельнічалі спартсмены з Віцебска, Гомеля, Слуцка, Мінска, Капыля, Маладзечна. Другі год запар чэмпіёнам стала каманда маладзечанскага турысцкага клуба "Пілігрым".

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

### Небяспечны крадзеж

*Памятаеце дзіцячую казку пра тое, як мужык у суседа карову ўкраў? Колькі не еў небарака крадзенае мяса — з кожным днём усё больш худзеў. Відаць, сумленне жыць не давала. А вось зладзееў, што ўкралі на мінулым тыдні некалькі жывых трусоў з памяшкання Гродзенскага скурна–венерычнага дыспансера, чакае яшчэ больш непрыемны "сюрпрыз".*

Жывёліны выкарыстоўваліся для лабараторнай дыягностыкі і былі заражаны цяжкай венерычнай хваробай. Так што расплата за крадзеж можа расцягнуцца для няўдачлівых зладзееў надоўга.

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

### Курсы валют на 20 чэрвеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 24180 | 24950 | 14880 | 15300 |
| "Прыор" | 24300 | 24600 | 15000 | 15300 |
| "Пошук" | 24400 | 24900 | 15000 | 15500 |

ВЫБАРЧЫ МАРАФОН

## Як будзем галасаваць?

У адпаведнасці з Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб правядзенні выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" дзень выбараў першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь назначаны на 23 чэрвеня 1994 года. Гэты дзень аб'яўлены выхадным днём.

Галасаванне будзе праводзіцца з 7 да 22 гадзін. На ўчастках для галасавання, якія ўтвораны ў воінскіх часцях, санаторыях і дамах адпачынку, бальніцах і іншых стацыянарных лячэбных установах, участковая камісія можа аб'явіць галасаванне законченым у любы час, калі прагаласавалі ўсе выбаршчыкі, уключаныя ў спіс.

Адказнасць за арганізацыю галасавання, забеспячэнне тайны волевыяўлення выбаршчыкаў, абсталяванне памяшканняў і падтрыманне ў іх неабходнага парадку нясе ўчастковая камісія.

Агітацыя ў дзень выбараў забаронена. Галасаванне праводзіцца ў спецыяльна адведзеных памяшканнях, у якіх павінны быць абсталяваны ў дастатковай колькасці кабіны або пакоі для тайнага галасавання, вызначаны месцы выдачы бюлетэняў і ўстаноўлены скрынкі для галасавання. Скрынкі для галасавання ўстанаўліваюцца такім чынам, каб галасуючыя пры падыходзе да іх абавязкова праходзілі праз кабіны або пакоі для тайнага галасавання.

У дзень выбараў перад пачаткам галасавання старшыня ўчастковай камісіі ў прысутнасці ўсіх членаў камісіі правярае, пламбіруе або апячатвае скрынкі для галасавання.

У памяшканнях для галасавання з моманту апячатвання выбарчых скрынак да заканчэння падвядзення вынікаў галасавання маюць права прысутнічаць дэпутаты, прадстаўнікі палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, працоўных калектываў, выбаршчыкаў, сродкаў масавай інфармацыі, давераныя асобы кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, а таксама наглядальнікі ад іншых дзяржаў і міжнародных арганізацый.

Пастановай Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 чэрвеня 1994 года растлумачана, што рашэнне аб накіраванні сваіх прадстаўнікоў для прысутнасці ў памяшканні для галасавання прымаецца на пасяджэнні кіруючага органа палітычнай партыі, іншага грамадскага аб'яднання ці яго арганізацыйных структур, сходах (канферэнцыях) працоўных калектываў, сходах выбаршчыкаў па месцы жыхарства, кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі.

Аб прысутнасці прадстаўнікоў у памяшканні для галасавання, у тым ліку дэпутатаў, давераных асоб кандыдатаў у прэзідэнты, замежных наглядальнікаў пісьмова паведамляецца адпаведнай камісіі не пазней чым за два дні. Паўнамоцтвы ўказаных асоб павінны быць засведчаны адпаведным дакументам.

Кожны выбаршчык галасуе асабіста, галасаванне за іншых асоб не дапускаецца. Адпаведнай участковай камісіяй выбаршчыку выдаецца бюлетэнь на падставе спіса выбаршчыкаў па прад'яўленні пашпарта або іншага пасведчання асобы. Пры атрыманні бюлетэня галасуючы распісваецца супраць свайго прозвішча ў спісе. Хочацца нагадаць, што ў адпаведнасці з Законам "Аб выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" права выбіраць маюць толькі грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія дасягнулі да дня або ў дзень выбараў 18 гадоў, пастаянна або часова пражывалі да моманту складання спіса выбаршчыкаў на тэрыторыі дадзенага ўчастка і маюць права ўдзельнічаць у галасаванні. У выбарах не ўдзельнічаюць грамадзяне, прызнаныя судом недзеяздольнымі, асобы, якія ўтрымліваюцца па прыгавору суда ў месцах пазбаўлення волі. У галасаванні не прымаюць удзел асобы, у адносінах да якіх у парадку, устаноўленым крымінальна-працэсуальным заканадаўствам, выбрана мера стрымання — утрыманне пад вартай.

У адпаведнасці з Пастановай Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 6 красавіка 1994 года на адваротным баку бюлетэня для галасавання павінны стаяць подпісы не менш як дзвюх асоб, якія ўваходзяць у склад участковай камісіі, што робіцца з мэтай выключэння падлогу бюлетэняў для галасавання.

Бюлетэнь па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь запаўняецца галасуючым у кабіне або пакоі для тайнага галасавання. Пры запаўненні бюлетэня забараняецца прысутнасць каго б там ні было, акрамя галасуючага. Выбаршчык, які не мае магчымасці самастойна запоўніць бюлетэнь, мае права запрасіць у кабіну або пакой іншую асобу паводле свайго меркавання, акрамя члена ўчастковай камісіі.

Пры галасаванні выбаршчык ва ўмовах, якія выключаюць кантроль за яго волевыяўленнем, выкрэслівае ў бюлетэні прозвішчы кандыдатаў, супраць якіх ён галасуе. Запоўнены бюлетэнь выбаршчык апускае ў скрынку для галасавання.

У выпадку, калі выбаршчыкі па стану здароўя або іншых уважлівых прычынах не могуць прыйсці ў памяшканне для галасавання, участковая камісія па іх просьбе, выказанай у пісьмовай або вуснай форме, даручае не менш чым двум членам камісіі арганізаваць галасаванне па месцы знаходжання гэтых выбаршчыкаў у дзень выбараў. Пры гэтым маюць права прысутнічаць прадстаўнікі палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, калектываў выбаршчыкаў.

Арганізацыйны аддзел Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

## "Суперчэннэл" — "Еўраньюс" — "TV-5" — "Уорлднэт"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА




Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі Віктар КАПАЧЭЛЬ, Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Якаў ЯСЭПКІН.

### Дарэмныя намаганні

*Нягледзячы на намаганні ААН па спыненню агню ў Йемене, там не сціхаюць баявыя дзеянні, патокамі льецца кроў.*

У нядзелю зноў безвынікова завяршыліся перамовы паміж прадстаўнікамі поўдня і поўначы. Пад час баявых дзеянняў на поўдні краіны ў нядзелю загінула 16 чалавек, на поўначы — 17.

### Рэквіем па ахвярах Сараева

*Многія артысты свету, у тым ліку і сараеўскія, аддалі даніну павагі ахвярам Сараева ў час канцэрта–рэквіема.*

У ім прынялі ўдзел славутыя Хасэ Карэрас, Чачэра Раймондзі, Чычырыл Касцья. У Сараева з пачатку баявых дзеянняў загінула 10.000 чалавек, 55.000 паранена.

### З "вострава Свабоды" не ўцячэш

*Кубінскі ўрад не дазваляе грамадзянам краіны выязджаць у эміграцыю.*

Многія кубінцы страцілі надзею пакінуць "востраў Свабоды". 170 чалавекам адмовілі ў бельгійскім пасольстве, 21 — у нямецкім, 8 — у кітайскім. Свае намеры яны тлумачылі "рэпрэсіўнай палітыкай улад".

### "Паліцэйская акадэмія" ў жыцці

*Паліцыя Лос–Анжэлеса арыштавала вядомага артыста О.Дж.Сімпсана.*

Ён абвінавачваецца ў забойстве сваёй былой жонкі і яе новага сябра. Развяліся яны яшчэ ў 1992 годзе. Сімпсан набыў шырокую вядомасць пасля здымак у фільме "Паліцэйская акадэмія".

### Міністр сустрэнецца з мяцежнікамі

*Міністр замежных спраў Францыі Жут мае намер на гэтым тыдні сустрэцца з мяцежнікамі Руанды. Ён спадзяецца, што пасля сустрэчы стане магчымай адмена загада ААН аб высадцы французскіх войск у Руандзе.*

Нават калі сустрэча завершыцца безвынікова, Жут заяўляе, што французскія войскі будуць накіраваны ў Руанду толькі з мэтай абароны мірнага цывільнага насельніцтва.

### Магічны бляск месяца

*Алан Шэпард, першы амерыканец у космасе і пяты чалавек, які пабываў на Месяцы, напісаў новую кнігу "Здымак Месяца: гісторыя вандроўкі амерыканцаў на Месяц".*

Шэпард сцвярджае, што ў кнізе змяшчаюцца погляды амерыканскіх астранаўтаў з нагоды палётаў у космас. Ён паслаў кнігу на сустрэчу астранаўтаў з прычыны 25-й гадавіны першай пасадкі на Месяцы.

### "АББА" з намі

*Шведская група "АББА", пік папулярнасці якой прыпаў на 70–я гады, выпусціць новы альбом, першы пасля 1982 года.*

Кампазітары Б'ёрн Ульвеус і Бені Андэрсан даўно жадалі выпусціць двайны альбом. У яго будуць уключаны старыя песні 70-х гадоў, якіх ніхто не чуў раней. Яны выйдуць у сучаснай апрацоўцы. Запіс альбома завершыцца ўвосень.

### Драма ля "Даласа"

*Амерыканскія ўлады расследуюць прычыны катастрофы самалёта, у выніку чаго загінулі 12 мексіканскіх футбольных балельшчыкаў, якія накіроўваліся на чэмпіянат свету.*

Самалёт пацярпеў катастрофу каля Вашынгтона, у кіламетры ад аэрапорта "Далас". Уся каманда і 12 пасажыраў загінулі. Пасля першай няўдалай спробы пайсці на пасадку пілот прадпрыняў другую, але самалёт зачапіўся за дрэвы і ўпаў на зямлю.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

ПАМЯЦЬ

# Выбух

## Партызанская быль, расказаная Яўгенам КРЫШТАПОВІЧАМ

☐ Вячаслаў ІШЧАНКА

*У маіх руках некалькі пажаўцелых, парваных дакументаў. Архіўная даведка партархіва Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі сведчыць аб тым, што КРЫШТАПОВІЧ Яўген Іванавіч, 1927 года нараджэння, са студзеня 1943 года з'яўляўся сувязным партызанскай 16-й Смаленскай брыгады, якая дзейнічала ў Смаленскай, Віцебскай абласцях, з 30 верасня 1943 года па 4 жніўня 1944 года быў радавым партызанам гэтага атрада.*

*Некалькі даведак аб асколачных раненнях, кантузіях, аб разбітай прыкладам галаве ў рукапашным баі, аб абмаражэнні...*

*Вельмі патрэбны гэтыя даведкі інваліду вайны. Для бюракратаў нават ён без паперкі — нішто. Ёсць пра што расказаць партызану Вялікай Айчыннай вайны Яўгену КРЫШТАПОВІЧУ. Адзін з трагічных эпізодаў партызанскага жыцця назаўсёды ўрэзаўся ў памяць майго субяседніка.*

...Набліжалася 26-я гадавіна Чырвонай Арміі. У партызан Ушачска-Лепельскай зоны стала традыцыяй адзначаць знамянальныя даты Радзімы дыверсіямі на камунікацыях ворага. Старшым дыверсійнай групы быў прызначаны Аляксандр Меркуль. Усім астатнім удзельнікам аперацыі, у тым ліку і жонцы Крыштаповіча было па 15—18 гадоў.

У сорак трэцім годзе чыгунка вельмі добра ахоўвалася немцамі. Подступы да яе былі замініраваны. Лес і лесаахоўныя насаджэнні ўздоўж палатна захопнікі высеклі. Падыходы да дарог перагароджвалі дзоты, кулямётныя вышкі і драцяныя загароды. А часам немцы і хітрылі: ставілі шыльдачкі "міны" ў тых месцах, дзе іх не было. Вось і паспрабуй разабрацца, дзе чакае смерць.

Дарога была доўгая. Нудна рыпеў снег пад нагамі, хутка чарнела неба. Вельмі стаміўся, хацелася сесці і адпачыць хоць крыху. Але страх адстаць ад групы гнаў Крыштаповіча наперад. Ён падаў, падымаўся і зноў бег. "Ці будзе канец гэтай дарозе?"— стомлена думаў ён.

Раптам пачуўся брэх сабак. Група спынілася. Меркуль пайшоў у вёску па знаёмага яму праваднікa. Яго доўга не было, а калі прыйшоў, па яго твары было відаць, што здарылася самае страшнае. Аказалася, праваднікa і яго сям'ю мінулай ноччу знішчылі немцы. Прыйшлі да яго пад відам партызан, папрасілі правесці іх на чыгунку. Ён, відаць, згадзіўся. Фашысты вывелі яго ў двор, звязалі і аблілі вадой. А хату падпалілі і кінулі яго ў агонь.

Усе анямелі ад пачутага, хоць кожны з іх за сваё кароткае жыццё паспеў хапіць гора. Прыйшлося шукаць іншага праваднікa. Пошукі вёскі, дзе ён жыў, працягваліся ўсю ноч. Толькі раніцай яе адшукалі. Каб не наклікаць бяду на праваднікa, вырашылі да цемнаты прасядзець у лесе. Кароткі зімовы дзень здаваўся вечнасцю. Час быццам спыніўся.

З наступленнем цемнаты прыйшоў праваднік. Доўга кружылі па лясах і палях, абыходзілі гарнізоны ворага. Нарэшце паказалася чыгунка, побач станцыя Зябкі. Група залягла і пачала чакаць. Стукаючы падкаванымі ботамі па палатну дарогі, з аўтаматамі напагатоў прайшлі патрулі. Пасля доўгага чакання з боку станцыі пачуўся шум цягніка. Правальваючыся па пояс у снезе, спяшаліся да чыгуначнага палатна. Усё вырашалі секунды, бо трэба ж паспець паставіць міну і адысці.

Цягнік ішоў марудна і цяжка. Дрыжэла зямля, звінелі рэйкі. Шомпал у Меркуля не ўваходзіў у мёрзлую зямлю. Аляксандр нерваваўся, забіваючы шомпал прыкладам карабіна. Стальная грамадзіна кацілася на яго.

Раздаўся страшны выбух, полымя ўзвілося вогненным смерчам, штосьці цёмнае, круцячыся, пранеслася над галавой Крыштаповіча, а сам ён паляцеў з адхону. Азірнуўшыся, Жэня ўбачыў узарваныя рэйкі, а на тэлеграфных правадах штосьці цёмнае.

Мінула паўтара года. У жніўні сорак чацвёртага штаб партызанскай брыгады знаходзіўся на хутары, непадалёк ад станцыі Зябкі. Яўген Крыштаповіч гадзінамі блукаў па наваколлі, заходзіў у самыя маляўнічыя мясціны і марыў. Пасля цяжкіх баёў, голаду і блакады гэтыя мірныя вечары здаваліся яму салодкім сном. Іншы раз падарожнічаў з ім і сын гаспадара хутара.

Аднойчы ён расказаў Яўгену страшную гісторыю. У гэтых месцах зімой мінулага года падарваўся партызан. Немцы выклікалі з Полацка рамонтную брыгаду і аднавілі пуць. Знайшлі разарванага партызана, а яго кажух — на тэлеграфных правадах. Афіцэр загадаў салдатам сабраць кавалкі цела і карміў імі сваю аўчарку.

Страшным і нечаканым аказаўся для Крыштаповіча эпілог чалавечай трагедыі, удзельнікам якой ён быў. На яго вачах не стала чалавека. Але каб чалавек карміў сабаку чалавекам... Такога і ў сне не магло прысніцца.

### Незабыўнае



Фота Сяргея БРУШКО.

# Сын палка

Пайшоў другі год акупацыі. У вёсцы Кулікі, што на Міншчыне, гаспадарылі немцы. Свінцом і агнём устанавілі тут "новы парадак".

"Душыць іх, гадаў, трэба!— не раз чуў Грыша Гайдукевіч ад сваіх вяскоўцаў.

У сэрцы кожнага з іх затаілася злосць, ім хацелася помсціць за здзекі, аднак з віламі і граблямі нічога не зробіш.

Але з цягам часу і яны атрымалі зброю, калі пайшлі ў партызанскі атрад.

Хлопчык таксама вырашыў стаць народным мсціўцам.

— Ты горкае дзіця, сядзі і не рыпайся,— прама сказаў Грышу адзін пажылы мужчына.

І вось у адзін з дзён на шашы Слуцк—Бабруйск з'явіўся худы хлопчык у абарваным адзенні. Ніхто і падумаць не мог, што ён ідзе на баявое заданне. Знайшліся ў партызанскім атрадзе такія, хто рашыўся даверыць адзінаццацігадоваму хлопчыку сур'ёзную справу.

Ён ішоў па дарозе, праводзячы вачыма цяжкія варожыя машыны, час ад часу адпачываў на ўзбочыне. Каля месца, дзе знаходзіўся нямецкі пост, хлопчык пайшоў павольна, баючыся глядзець на часавога.

Калі на наступны дзень пачуўся выбух на ўсю ваколіцу, ніхто не мог нават паверыць, што гэта справа рук Грышы.

— Ты больш нікуды не лезь,— прасіла маці, калі даведалася аб паспяхова праведзенай ім аперацыі.

І Ульяну Лявонцьеўну можна зразумець. Яе муж Антон Сцяпанавіч пайшоў на фронт і больш не вярнуўся ў родную вёску Кулікі, а ў хуткім часе пайшоў на фронт старэйшы яе сын, брат Грышы, якому не было і семнаццаці. Ён таксама загінуў. Колькі слёз выплакала па іх Ульяна Лявонцьеўна! Грыша глядзеў на маці і шкадаваў яе.

— Яшчэ маё шчасце, сынок, што ты пры мне,— гаварыла яна яму.

Не, не мог ён паслухаць маці. Яго цягнула адпомсціць фашыстам і за бацьку, і за брата.

Калі Грыша першы раз не падвёў, знаёмыя яму партызанскія разведчыкі даюць другое, больш адказнае заданне. Пад выглядам жабрака ён пачаў з'яўляцца ля варожага гарнізона. Патрэбна было даведацца аб хадах, выхадах да складоў, дзе ўсе шляхі, па якіх адсюль паступае на фронт зброя.

— *Пойдзеш* з намі,— сказаў хлапчуку Зубараў.

Грыша разам з партызанамі накіраваўся ў варожы гарнізон. Не думаў, што будзе ўсё так проста: без ахвяр здымуць нямецкіх вартавых, узарвуць склады.

Так паступова ўвайшоў Грыша Гайдукевіч у партызанскі атрад імя Ракасоўскага, які дзейнічаў на Случчыне.

Больш чым два гады Грыша знаходзіўся ў партызанскім атрадзе. А калі фашыстаў выгналі з Мінскай вобласці, ён падаўся на фронт.

— Вучыцца табе трэба,— адказвалі яму.— Хопіць, навaяваўся.

Маладога партызана пераканаць было нялёгка, і ён стаў сынам 321-га стралковага палка.

Ульяна Лявонцьеўна баялася страціць малодшага сына. Яна пачала пісаць лісты камандаванню часці з просьбай адправіць хлопца дамоў. У сувязі з тым, што Грыша яшчэ непаўналетні, просьбу жанчыны задаволілі. Для хлапчука пачалося новае жыццё. Скончыў школу і вырашыў звязаць свой лёс з арміяй. Скончыў ваеннае вучылішча ў званні афіцэра. Але, на жаль, не давялося доўга насіць пагоны. З-за хваробы вымушаны быў пайсці ў адстаўку.

Зноў сеў за кніжкі. Скончыў Брэсцкі педагагічны інстытут і пачаў працаваць у школе, а затым у Наваполацкім ПТВ-156. Зараз Рыгор Антонавіч на пенсіі, але працуе выкладчыкам рускай мовы і літаратуры ў Наваполацкім ПТВ-156.

У.ХІТРЫК.

# Вялі хлопцаў на расстрэл

☐ Мікола КАПЫЛОВІЧ

*Трывожная памяць зноў вяртае мяне да падзей той страшнай пары. І хочацца мне сёння расказаць пра хлапчукоў-падлеткаў, якіх у сваё полымя ўцягнула вайна.*

## 1. Уварваліся карнікі

Восенню сорак першага дзевятнаццацігадовы Сяргей Ванцэвіч, вырваўшыся з акружэння, з выбітым вокам і пакалечанай рукою, вярнуўся дамоў, у Крукі. Пра свае планы не гаварыў — відаць, збіраўся, як толькі ачуняе, ісці да сваіх. Шчырым быў хіба толькі што з братам Іванам, на два гады маладзейшым за яго. Упарты, смелы, той рваўся ў партызаны. З зайздрасцю расказваў, як яны пад Заполлем разграмілі фашысцкі атрад і недзе пад Калінкавічамі пусцілі пад адхон варожы эшалон. Напалоханыя і разазлаваныя, фашысты бачылі партызана ў кожным, нават у нямоглых старых і малых дзецях. Ніколі не забуду, як мяне, тады яшчэ зусім малога, вельмі ж здзівіла форма танкістаў-эсэсаўцаў, якія толькі што ўварваліся ў нашу вёску. Асабліва напалохалі чэрапы і косці на пілотках гітлераўцаў. Злавіўшы мой пільны позірк, адзін з эсэсаўцаў схапіў мяне за вуха, прытым гэтак гідліва, кончыкамі двух пальцаў і злосна працадзіў праз зубы:

— Ш-шпіён?

Другі, гэтакі ж самаўпэўнены і злосны, даў мне выспятка і гаркнуў:

— Вег!

Зімою сорак першага па вёсках прабегла жахлівае слова — карнікі! А яно азначала: допыты, зверствы, расстрэлы. Памятаю, са спаленай дашчэнту Буды ў нашую вёску прыбеглі цудам уцалелая маці нашага суседа і, захлёбваючыся слязамі, расказвала як карнікі знішчалі жыхароў вёсак, якія дапамагалі партызанам. Яны акружылі Буду і адкрылі агонь з кулямётаў па хатах. Людзі — старыя, жанчыны з дзецьмі — пахаваліся ў скляпы. Фашысты ўрываліся ў дамы, кідалі ў скляпы гранаты, потым пачалі паліць вёску. Жывых сагналі ў адзін хлеў і таксама падпалілі.

Уварваўшыся ў Крукі, карнікі, магчыма, каб навесці на людзей страх, наладзілі суцэльную праверку. З тымі, на каго выпала падазронасць, жорстка расправіліся. А заадно адбіралі ў жыхароў валёнкі, кажухі, хусткі і іншыя цёплыя рэчы. Для салдат вермахта, якія мерзлі пад Масквою ў акопах.

І вось на вочы карнікам трапіліся браты Ванцэвічы — Іван і Сяргей. У той нядобры час хлопцы вярталіся дамоў ад суседзяў з торбаю змолатага жыта.

— Хальт! Аўсвайс! — спыніў братоў рэзкі вокрык. Іх акружыў конны атрад эсэсаўцаў.

Сяргей, худы, з марлеваю павязкаю на левым воку, паказаў торбу з мукою:

— Мы тутэйшыя. Хадзілі жыта малоць. Вось наш дом. Карнікі абступілі братоў, загадалі ім зняць з ног валёнкі.

— Партызанен! — усклікнуў раптам адзін з эсэсаўцаў, паказваючы на разутыя ногі Сяргея. На іх былі форменныя нямецкія шкарпэткі — знайшоў іх, выходзячы з акружэння. Страшны доказ! Не спадабаўся акупантам і позірк — поўны нянавісці і непрыхаванай пагарды, якім паглядзеў на іх малодшы брат.

Піхаючы ў спіны прыкладам, каты павялі босых братоў у дом, дзе спынілася зондэркаманда. Пасля кароткага допыту братам загадалі ісці на вуліцу. Тыя зразумелі — на расстрэл.

— Давай напаследак урэжам гадам, — прапанаваў Іван, калі іх вывелі на ганак. — Іх жа ўсяго двое.

— Зойдзем за хату — тады, — ціха адказаў Сяргей. — Твой — левы. Бі кулаком, вырывай стрэльбу.

— Швайген! — злосна выдыхнуў канвaір і замахнуўся прыкладам. Толькі завярнулі за рог хаты, браты накінуліся на канвaіраў. Сяргей, стукнуўшы эсэсаўца, пачаў вырываць з яго рук зброю. Іван, агрэўшы кулаком другога, схапіўся за вінтоўку. Сяргей ужо абяззброіў было свайго атарапелага ворага, калі другі, з якім змагаўся падлетак Іван, нешта крыкнуў і стрэліў. На стрэл з хаты выскачылі карнікі.

Расправа была жорсткай. Братам пераламалі рукі, рэбры. Потым пачуліся стрэлы.

Цэлы тадзень расстраляныя ляжалі ў снезе. Як ні білася, ні плакала іх маці, фашысты не дазволілі ёй забраць целы расстраляных смельчакоў. Толькі тады, калі карнікі пакінулі вёску, людзі пахавалі іх у адной магіле.

## 2. Смелыя ўцёкі

Зноў арышты, расправы, расстрэлы. Зноў карнікі лютавалі ў Круках. Тут атабарылася і зондэркаманда. А Віктара Гаўрыльчыка лютаўскім марозным днём вырашылі, каб нагнаць страху на іншых, павесіць, сагнаўшы да віселіцы ўсіх жыхароў вёскі.

Гэты смелы шаснаццацігадовы хлапчук быў адным з тых, хто збіраў зброю для барацьбы з захопнікамі, пускаў іх матацыклы ў Прыпяць, псаваў ваенную маёмасць.

...Ноччу варожы ахоўнік заўважыў, як каля аўтамашын з боепрыпасамі мільгануў нечы цень. Вартаўнік крыкнуў, стрэліў, але смяльчак уцёк. Немец, праўда, паспеў заўважыць, да якой хаты ён пабег.

Калі ў хату ўварваліся варожыя салдаты, Віця, ужо распрануты ляжаў у ложку. Яго выцягнулі, прымусілі хутка апрануцца, павялі ў камендатуру.

Допыт цягнуўся доўга. Спярша ўгаворвалі, пагражалі, потым пачалі біць. Але Віктар ні ў чым не прызнаўся. Тады яго пасадзілі ў халодны склеп, пад замок. Пасядзіць ноч на марозе, тады, маўляў, усё скажа. Але Віця Гаўрыльчык быў не з такіх.

Пачакаўшы гадзіну-другую, пакуль ворагі супакоіліся, знаходлівы хлапчук пачаў рыхтавацца да ўцёкаў. Прыставіўшы да сцяны парожнюю скрынку, ён пачаў рабіць у даху адтуліну. Стараючыся не шумець, голымі рукамі адломваў трэску за трэскай, абдзіраючы да крыві рукі аб дошкі і цвікі. Дзьмухаў на анямелыя, пашарпаныя пальцы і зноў браўся за сваё. І вось яна, выратавальная дзірка! Пачаў вылазіць — завіснуў. Вузкаватая! Пашырыў яшчэ і, нарэшце, вылез на дах. Прыслухаўся — цішыня. Саскочыў на зямлю і, пакуль ахоўнікі не спахапіліся, агародамі рвануў у лес...

Дзе стаялі партызаны, Віктар ведаў ад саміх карнікаў. Кожную раніцу, апранутыя ў маскхалаты, на лыжах, з аўтаматамі і кулямётамі, яны адпраўляліся да лясных вёсак, якія былі заняты партызанамі. Калі ўвечары яны вярталіся ў Крукі ў акрываўленых павязках, прывозячы на санях забітых і параненых сваіх салдат. Віктар чуў, што яны называлі вёскі Рэпішча, Антонаўка, Пятрыцкае.

Туды, у Рэпішча, і накіраваўся Віктар. Там, па чутках, партызаны асядлалі бальшак. Калі б на лыжах ці ў летні час, ён дабег бы туды за гадзіну-другую. А тут, загрузаючы па пахі ў снезе, ён поўз у цемені перабіраўся цераз Прыпяць і яе затокі, бокам абыходзіў вёскі, дзе стаялі немцы. Ратавала тое, што Віця добра ведаў тутэйшыя мясціны, кожны раўчук, кожнае дрэўца. Колькі разоў у летні і асенні час прыходзіў сюды па грыбы. Кіламетраў пяць, калі не больш прабіраўся юны ўцякач, абыходзячы бокам бальшак, па якому хадзілі сюды-туды варожыя дазоры. Сяк-так на скорую руку апрануты, спярша ён нават спацеў ад хуткай хады, а потым пачаў мерзнуць. Былі б запалкі, у зацішным месцы развёў бы цяпельца, абагрэўся б.

Крочыў, здавалася, усю ноч. Мінуў паваротку на Рудню, перабег сцежку на Залессе. Да Рэпішча заставаўся кіламетр-другі. Ужо зусім блізка выратавальная партызанская зона. Зусім знясілены хлапчук выбраўся на бальшак. І тут жа пачуў чужы страшны вокрык. І зразумеў: напароўся на варожую засаду. Уцякаць ужо ў Віктара не было сіл.

Засада ўжо ведала аб небяспечным уцекачы і тут жа, скруціўшы яму рукі, павезлі ў Крукі.

Калі збітага, са звязанымі рукамі, Віктара падвялі да віселыні, ён не прасіў у ворагаў літасці. Толькі абвёў позіркам знаёмыя твары вяскоўцаў і ціха сказаў:

— Бывайце, людзі!

І павярнуўся тварам да катаў:

— Вешайце, нелюдзі!

## 3. Міхась — кулямётчык

Здаралася ў вайну і неверагоднае — мёртвыя ажывалі. Адразу пасля вайны (ды і потым) мы часта бачыліся з баяністам раённага Дома культуры Міхасём Фядотавічам Канашэнкавым. Па гадах ён быў зусім малады, а на выгляд — амаль дзед. Калі даводзілася размаўляць з ім, міжволі адводзіў позірк убок. Адно вока ў яго было выбіта, на скроні — ружовы глыбокі шрам. Здавалася цудам, што ён наогул застаўся жывы. Карнікі дабівалі яго, цяжкапараненага ў баі партызана, ва ўпор — у твар, у вочы...

Партызанам Міхась стаў у снежні сорак першага, калі яму ледзь споўнілася семнаццаць гадоў. Глухою сцюдзёнай ноччу прыйшоў з лесу, з атрада, бацька і сказаў яму: "Ну, збірайся... Тут цябе немцы заб'юць..." Худзенькі, апрануты ў жабрацкую вопратку, хлапчук хадзіў па занятых фашыстамі вёсках, жабраваў. І падмячаў, дзе і як размясціліся ворагі, чым узброены. Аднаго разу юнага разведчыка затрымалі, але потым усё ж адпусцілі — вельмі ж ён не быў падобны на партызана. А Міша дзень за днём станавіўся дарослым і хутка зрабіўся сапраўдным байцом, умелым кулямётчыкам і мінёрам.

Калі заходзіла гаворка пра гераізм, Міхась Фядотавіч прыгадваў бой пад Зубаўкай, расказваў пра гераічны подзвіг Ягора, які загінуў у тым баі. Карнікі, адпраўляючыся на чарговую аперацыю, прымусілі дзеда быць іх праваднікам. Падышоўшы да вёскі і баючыся напароцца на засаду, фашысты накіравалі дзеда наперад, загадаўшы яму: "Пройдзеш па вёсцы і, калі партызан не будзе, вернешся і з вось таго ўзгорка махнеш нам рукою. І стаяць на месцы! Інакш — капут!"

Дзед Ягор, прыйшоўшы ў вёску, сустрэў там партызан, якія падрыхтаваліся сустрэць ворагаў... "Што будзеш далей рабіць?" — спыталі ў яго. "Пайду запрашаць "гасцей", — адказаў той. Вярнуўся на ўзгорак і пачаў махаць рукою. Супакоеныя карнікі рушылі наперад і трапілі ў засаду. Раптоўны шквал агню партызан змёў іх усіх да аднаго. Але ў тым баі загінуў і дзед Ягор.

— Вось гэта быў дзед! — гаварыў Міхась. — Ведаў, на што ішоў. Ведаў і не пабаяўся.

Сам Канашэнкаў трапіў у смяротны пераплёт у верасні сорак другога, калі мініравалі шашу Рэчыца—Гомель. Чатыры партызаны, выканаўшы заданне, вярталіся ў атрад. Каля вёскі Раменнае нарваліся на варожую засаду. Фашысты пачалі іх праследаваць, адразаючы ад лесу. Партызаны паўзком, па барозне, уцякалі ад іх. А Міхась Канашэнкаў лёг за кулямёт, каб прыкрыць іх адыход. Дыскаў было шмат, і меткі кулямётчык не даваў фашыстам падняць галавы. І, безумоўна, спадзяваўся: "Адыдуць хлопцы — папаўзу і сам". Увайшоў у ахвоту і нават не заўважыў, як яго параніла ў гарачцы бою. Нешта вострае пранізала бок. Потым параніла і нагу. Зразумеў — уцячы не ўдасца. А з боку нямецкія галасы: "Здавайся!" У адказ — кулямётная чарга. Адзін немец падпоўз бліжэй і кінуў гранату. Выбух — і тут ён страціў прытомнасць. Ачуняў — нечыя рука водзіць па твары. І тут ён расплюшчыў вочы. Апошнім, што ўхапіла памяць, — чорнае вока пісталета, асляпляльная ўспышка..

Фашыст страляў ва ўпор. І некалькі разоў. Потым немцы распранулі нерухомае цела партызана і, падумаўшы, што ён забіты, тут жа пакінулі. Але да раніцы ён апрытомнеў, велізарнымі намаганнямі прымусіў сябе паўзці да сваіх.

Толькі не дапоўз бы, калі б яго не падабрала Аўдоцця Кулеш з вёскі Засінцы. Паклала на свае жаночыя плечы і панесла параненага партызана дамоў. Кіламетры два цягнула на сабе. Толькі ступіла ў двор — немцы! Знаходлівая жанчына хуценька завязала на галаву Міхасю жаночую хустку, накінула яму на плечы свой каптан. І — пранесла! А потым, калі Міхась ужо ляжаў у ложку, гітлераўцы ўварваліся ў хату. Убачыўшы іх, мужная Аўдоцця спалохана замахала рукамі: "Нельга, нельга туды! Тыфус!" А тыфу немцы вельмі баяліся. Калі Міхась ачуняў, яго адвезлі ў партызанскі атрад.

— Аўдоцця Мікалаеўна — мая другая маці. Яна ж мяне выцягнула з таго свету, — не раз паўтараў Міхась Фядотавіч, калі размова заходзіла пра яго партызанскае мінулае.

Пра сябе ж, пра тое, што давялося яму перажыць, ён расказваць не любіў. Ды і каму прыемна варушыць у сваёй памяці такое?! Вайна для тых, хто яе бачыў у твар, перажыў, і цяпер пякучая рана.



Чорнай датай увайшло ў гісторыю нашага народа 22 чэрвеня 1941 года. У гэты дзень фашысцкая армія вераломна напала на нашу зямлю. І ў ліку першых пацярпела Беларусь. Тысячы бомбаў абрушыліся ў першыя дні вайны на нашы гарады і вёскі. Слязамі, горам, пакутамі напоўніліся да таго ціхія чэрвеньскія дні. І мала хто думаў тады, што гэта будзе цягнуцца бясконца доўгія чатыры гады.

Няхай гэты дзень назаўсёды застанецца ў нашай памяці, памяці нашых нашчадкаў. І няхай ён ніколі не паўторыцца.

* Першыя "дзеянні" гітлераўцаў на беларускай зямлі (вёска Ракавіца Брэсцкага раёна).

Здымкі з фотатэкі БЕЛІНФАРМА.

# ПАСТАНОВА

**Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 460**

### АБ МАТЭРЫЯЛЬНАЙ ПАДТРЫМЦЫ МАЛАЗАБЯСПЕЧАНЫХ ГРУП НАСЕЛЬНІЦТВА

У мэтах далейшай матэрыяльнай падтрымкі малазабяспечаных груп насельніцтва Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь п а с т а н а ў л я е:

1. Павялічыць з 1 ліпеня 1994 г. у 1,5 раза даплаты да тарыфных ставак і службовых акладаў, прадугледжаныя пунктам 2 Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 10 сакавіка 1994 г. № 136 "Аб дадатковых мерах па сацыяльнай абароне насельніцтва" (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 8, арт. 113).

2. Павялічыць у ліпені 1994 г. у 2 разы размер індэксацыйнай даплаты да мінімальных працоўных пенсій, прадугледжанай пунктам 3 Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 25 сакавіка 1994 г. № 187 "Аб парадку карэкціроўкі сярэднямесячнага фактычнага заработку пры назначэнні пенсій і пераразліку пенсій у сувязі з ростам сярэдняй заработнай платы" (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 9, арт 150).

3. Выплаціць у ліпені1994 г. беспрацоўным, якія атрымліваюць дапамогу па беспрацоўю і стыпендыі пры праходжанні прафесійнай падрыхтоўкі, павышаюць кваліфікацыю па накіраванню дзяржаўнай службы занятасці, па 30 тыс. рублёў.

4. Ажыццявіць аднаразовыя выплаты на набыццё школьнай формы сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей — вучняў дзённых сярэдніх агульнаадукацыйных школ, гімназій, ліцэяў і іншых аналагічных навучальных устаноў, школ-інтэрнатаў усіх тыпаў і назваў (уключаючы школьнікаў першых класаў па стану на 1 верасня 1994 г.), у наступных размерах: сем'ям, якія маюць двух дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў, — па 50 тыс. рублёў, няпоўным сем'ям (незалежна ад колькасці дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў), а таксама сем'ям, якія маюць трох і больш дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў, —па 75 тыс.рублёў на кожнага школьніка.

Указаныя выплаты правесці ў ліпені — жніўні 1994 г. за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту праз фонд сацыяльнай абароны насельніцтва:

Па месцы работы, вучобы, службы маці школьніка, а калі маці не працуе і не вучыцца, — па месцы работы, вучобы, службы бацькі, або ўсынавіцеля, апекуна;

непрацуючым бацькам у няпоўнай сям'і, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце да 8 гадоў, прадпрымальнікам, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, членам сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак — у органах сацыяльнага забеспячэння па месцы жыхарства;

непрацуючым пенсіянерам — па месцы атрымання пенсіі;

асобам, якія знаходзяцца на ўліку ў дзяржаўнай службе занятасці і атрымліваюць дапамогу па беспрацоўю і стыпендыі пры праходжанні прафесійнай падрыхтоўкі, павышэнні кваліфікацыі па накіраванню гэтай службы, — у цэнтрах занятасці насельніцтва.

Гэтыя выплаты не робяцца на дзяцей, якія знаходзяцца на поўным дзяржаўным забеспячэнні, а таксама выхоўваюцца ў сем'ях, дзе абодва бацькі працаздольныя, а ў няпоўнай сям'і — адзін з бацькоў не працуе і не знаходзіцца на ўліку ў дзяржаўнай службе занятасці (акрамя няпоўных сем'яў, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце да 8 гадоў).

Міністэрству фінансаў сумесна з фондам сацыяльнай абароны насельніцтва ўстанавіць парадак выплаты ўказаных сродкаў.

Міністэрству фінансаў забяспечыць поўнае і своечасовае фінансаванне гэтых расходаў у парадку, устаноўленым пунктам 2 Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 16 мая 1994 г. № 339.

5. Павялічыць з 1 верасня 1994 г. размеры дзяржаўных стыпендый студэнтам вышэйшых навучальных устаноў да 100 працэнтаў, а навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў — да 85 працэнтаў мінімальнай заработнай платы.

Кіраўнікам навучальных устаноў забяспечыць выплату стыпендый за ліпень—жнівень 1994 г. да пачатку летніх канікулаў.

6. Аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму актывізаваць работу па аказанню матэрыяльнай, у тым ліку ў натуральнай форме, дапамогі маламаёмным грамадзянам, звярнуўшы асаблівую ўвагу на мнагадзетныя сем'і, адзінокіх састарэлых людзей, інвалідаў, пенсіянераў, якія атрымліваюць сацыяльныя пенсіі.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.КЕБІЧ.**

**Першы намеснік кіраўніка спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь А.САКАЛОЎСКІ.**

**17 чэрвеня 1994 г. г.Мінск.**

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА




## ЗАМПЕР – ПРЭЗІДЭНТ КАЛУМБІІ

*Новым прэзідэнтам Калумбіі стаў 34-гадовы кандыдат ад ліберальнай партыі Эрнеста Зампер.*

У другім туры прэзідэнцкіх выбараў ён атрымаў больш за 50 працэнтаў галасоў. Зампер заявіў, што мае намер і надалей ісці шляхам эканамічных рэформ, працягваць барацьбу з мафіяй. У выбарах прымалі ўдзел 17 мільёнаў калумбійцаў.

## ЮГАСЛАВІЯ "АЖЫВЕ" НА КІНАПЛЁНЦЫ

*Зорка Галівуда Марцін Шын знаходзіцца ў Герцагавіне, дзе будзе здымацца ў фільме пра святара, якога пасадзілі ў турму былыя камуністычныя кіраўнікі Югаславіі.*

Фільм распавядае пра падзеі 1981 года, называецца стужка "Наша лэдзі". Шын у ролі французскага свяшчэнніка здымаецца разам з Морган Фэйрчайлд (сястра свяшчэнніка) і Лютклам Йоркам (адвакат). Здымкі пройдуць у Заграбе і Міжгор'і.

## СТЫХІЯ НЕ АДСТУПАЕ

*У выніку паводкі ў паўднёвых і паўднёва-ўсходніх абласцях Кітая больш як 400 жыхароў сталі ахвярамі стыхіі, разбурана 116.000 дамоў, 2,6 мільёна чалавек засталіся без даху над галавой.*

Паводле падлікаў спецыялістаў, урон вымяраецца сумай у 100 мільёнаў даляраў. Між тым, надвор'е ў бліжэйшыя дні не палепшыцца, зноў чакаюцца дажджы. У раёны бедства накіраваны выратавальныя атрады.

## ТРАГІЧНЫ ПАЛЁТ

*У нядзелю недалёка ад правінцыі Валадурыт упаў на зямлю маленькі самалёт, на борце якога знаходзіліся два чалавекі.*

Абодва яны — 44-гадовы бацька і 16-гадовы сын — загінулі.

## ІМІДЖ ПРАДАДЗЕНЫ ЗА ПАЎМІЛЬЁНА

*Барадатыя рокеры з групы "ZZ Top" збрыюць за грошы свае бароды.*

Білі Гібанс і Дасці Хіл з'яўляюцца гонарам рок-музыкі. Але за паўмільёна даляраў яны ўпершыню за дзесяць год з'явяцца перад публікай безбародымі. Магчыма, відовішча будзе не з прыемных. Публіцыст Гэбі Сапінгтоне гаворыць:"Нядаўна адна шведская газета з дапамогай камп'ютэрнай графікі паказала, як будуць выглядаць музыканты без барод. Яны выглядалі агідна".

## З ЕГІПТА – У ІЗРАІЛЬ

*Англійскі рок-спявак Пітэр Габрыэль перанёс свой музычны фестываль, які мае на мэце прымірыць арабскіх і яўрэйскіх фанаў, з Егіпта ў Ізраіль.*

Такое рашэнне прынята пасля таго, як улады Каіра забаранілі запланаваны канцэрт у Егіпце. Ён павінен быў адбыцца ў курортным горадзе Таба на ўзбярэжжы Чырвонага мора. Цяпер канцэрт пройдзе ў ізраільскім порце Айлат.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

# ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

*Рубрыку вядзе Святлана КУЛІКОВА*
**Тэл. 68-29-26**

## Старажытнае насельніцтва на Беларусі

?

*"Вельмі цікава, калі з'явілася старажытнае насельніцтва на тэрыторыі Беларусі?*

**В.ШУБТА, г.Салігорск."**

З'яўленне першых людзей і фарміраванне першых этнічных супольнасцей на тэрыторыі Беларусі здарылася ў каменным веку, у перыяд, які называюць "даіндаеўрапейскім". У сістэме археалагічнай перыядызацыі — гэта эпоха сярэдняга палеаліту, якая існавала некалькі соцень тысяч гадоў таму. Старажытныя пасяленні з крэмніевымі прыладамі працы знойдзены ў вёсцы Бердыж на Сожы (побач з Чачэрскам), каля Свяцілавічаў, Абідавічаў, Кмевічаў (у паўднёва-ўсходняй Беларусі).

На працягу тысячагоддзяў прылады працы ўдасканальваліся, а першабытная гаспадарка развівалася. Шырокае распаўсюджанне атрымала паляванне, збіральніцтва, рыбалоўства. Нягледзячы на існуючае адрозненне, насельніцтва гэтага перыяду не дзеліцца па этнічных прыкметах. Навука не мае сведак, якія неабходны для такой класіфікацыі.

У бронзавым стагоддзі (канец III тысячагоддзя да н.э. — VIII—VII стст. да н.э.) індаеўрапейскія плямёны, якія жылі ў сярэдзіннай Еўропе, шырока рассяліліся на тэрыторыі Беларусі і асімілявалі мясцовае насельніцтва. Індаеўрапейскае насельніцтва не было аднародным. Балтыйская група індаеўрапейцаў, як думаюць навукоўцы, у раннім жалезным веку (прыкладна VIII—VII стст. да н.э. — IV—V стст. н.э.) засяліла амаль усю тэрыторыю сучаснай Беларусі, выключаючы крайні паўднёвы захад. З VI—VII стст. на тэрыторыі Беларусі актыўна рассяляліся славяне — іншая галіна індаеўрапейскага насельніцтва. На працягу другой паловы першага тысячагоддзя — у эпоху вялікага перасялення народаў — славяне атабарыліся практычна на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

## Работнік–акцыянер – гэта яшчэ не ўласнік

?

*"У 1992 г. на нашым прадпрыемстве прайшла прыватызацыя. Зараз генеральны дырэктар звальняе работнікаў-акцыянераў і прымае на работу іншых людзей. Ці мае ён права так дзейнічаць?*

**Б.ЛЫСЯНКОЎ, г.Брэст".**

Як паведамілі ў Дзяржкаммаёмасці, у дадзеным выпадку нельга блытаць уласнікаў з работнікамі прадпрыемства. Не ўсе работнікі, якія працуюць па найму, з'яўляюцца акцыянерамі прадпрыемства, так як і не ўсе акцыянеры абавязаны працаваць на дадзеным прадпрыемстве. Узаемаадносіны генеральнага дырэктара з работнікамі рэгулююцца працоўным заканадаўствам.

## Ваша кіска стане пераможцай

?

*"Раскажыце, калі ласка, як падрыхтаваць кошку да выставы.*

**К.САКАЛОЎСКІ, г.Мінск".**

Выстаўляць гадаванца рэкамендуецца ўжо з 6 месяцаў. З узростам ён паступова звыкнецца з мітуслівай атмасферай выстаў і будзе пераносіць яе спакойна.

Прытрымлівайцеся наступных правілаў:

1. Карміце кошку за дванаццаць гадзін да выставачнага дня.
2. Кошка павінна быць чыстай і здаровай (без блых, кляшчоў, насмарку і г.д.). Пачысціце гадаванцу вушкі і вытрыце куточкі вачэй.
3. Вымыйце кошку за тры-пяць дзён да выставы.
4. Не дазваляецца ўдзел кошак, якія чакаюць кацянят (з тэрмінам цяжарнасці больш як 30 дзён).
5. Забаронена выстаўляць падфарбаваных жывёл.
6. У двухкаляровых і трохкаляровых кошак старанна размяжуйце колер (напрыклад, чорны ад белага) і вырвіце "непатрэбныя" валаскі пінцэтам (напрыклад, на белым фоне не павінна быць чырвоных ці іншых валаскоў).

# АДМЕТЫ ЧАСУ

## Рэкет–стар на пад'ёме

□ **Вітаўт МАРТЫНЕНКА, "ЧЗ"**

*Не падумайце, шаноўныя чытачы, што гаворка пойдзе пра зорак рэкета — у нашых умовах гэта было б, прынамсі, смешна. Проста наш суровы час усеагульнага азвярэння прывёў у шэрагі рэкецiраў нават самую безабаронную катэгорыю насельніцтва — пенсіянераў. Вось таму і рэкет–стар, што не супер–стар, а старэе патроху.*

Логіка ўсяму можа даць тлумачэнні: калі і на зарплату ледзь зводзіш канцы з канцамі (меў рацыю гумарыст, гаворачы, што працуем мы выключна на унітаз, дый тое не кожны мае гэткую бытавую раскошу), дык што казаць пра пенсіянераў. Спажывецкі кошык цяпер такі дарагі, што тэарэтычна, паводле звычайных арыфметычных падлікаў, наш шэраговы пенсіянер павінен хадзіць голы, босы і паўгалодны. Ды мо нават і не хадзіць, а стаяць у чарзе па далёка не танную ўжо свінячую галаву ці чорны хлеб.

На практыцы ўсё, аднак, інакш. Голых, босых і паўгалодных усё ж амаль не відаць на вуліцах нашай амаль суверэннай рэспублікі. Дый што дзівіцца: аднаго пенсіянера падтрымлівае сынок-камерсант, у другога дачушка або ўнучка някепска прадаецца, што і на старых хапае, а ў трэцяга... Ды што тут казаць, ёсць жа пенсіі не звычайныя, а персанальныя.

І ўсё ж ёсць такія, якім няма на каго спадзявацца, акрамя сябе. Як жа выкручваюцца яны?

Там, дзе 2+2 патрабуе ў выніку 5, там, дзе тавар каштуе даражэй, чым за яго могуць заплаціць, але ўсё ж ён прадаецца... там трэба шукаць сур'ёзную хваробу. Праўда, нам шукаць позна ўжо: гэты нарыў даўно прарвала.

Яшчэ летась я заўважыў, як выкручваюцца тыя — занядбаныя — пенсіянеры на мінскім Камароўскім рынку. Прыватны гандаль падарыў ім магчымасць спадзявацца на ўдалых гандляроў. Малдаване прывозілі ў нашу сталіцу фуры свежых яблыкаў. Лепшыя прадаваліся даражэй, горшыя — больш танна... і г.д. Але яшчэ не зусім кепскія, хоць і дробныя, ды не гнілыя, стала добрай традыцыяй раздаваць бабулькам і дзядулькам бясплатна.

Гэта было своеасаблівай адзнакай часу, але час мае звычку пастаянна змяняцца і мінаць. Сёння ўжо іншы час. Бо іншае ў ім разуменне ўдалага гандляра. Часам і тавар у яго дабротны, і кошт ніжэйшы за "достопамятные", а гандаль не ідзе. Некаторыя тавары папросту фатальна трапілі ў ранг безнадзейных. Цудоўны прыклад — відэакасеты: пры заробку 150 рублёў у месяц мы лёгка аддавалі за касету 75 і лічылі, што гэта танна, сёння, зарабляючы пад 500 000 мы яшчэ падумаем, ці аддаць за такую рэч 50 000. Прычына простая — татальная беднасць, якая не дае магчымасці купіць і танны тавар, бо чалавек не можа адкласці пэўныя сродкі, зрабіць выбар з дыстанцыі часу. Усё адкладзенае ім з'ядае інфляцыя, таму тое, што засталося, ён не аддасць на хай сабе і танную дробязь.

І вось сёння зусім не кепскі гандляр сядзіць, напрыклад, з цудоўнымі апетытнымі лімонамі ды ніяк не можа іх прадаць, бо ў ягонага суседа лепей ідзе смешнае смецце па "смешных цэнах". Ля такога гандляра давялося мне днямі пачуць гутарку бабулькі:

— Гэта што, сынок, лімоны такія вялікія?

— Так, лімоны.

— А можна бясплатна што-небудзь?

Такія гутаркі, шпацыруючы базарам, можна пачуць усюды: ля мясных абрэзкаў, ля гнілых агуркоў, ля счарнелай хурмы... І ў большасці выпадкаў адказ традыцыйны для дня сённяшняга:

— Ідзіце адсюль, усё грошай каштуе.

Логіка простая: чым менш бедных, тым больш шчодрая дабрачыннасць, чым больш бедных — тым больш нервознасці і жорсткасці ва ўзаемаадносінах. А ўсялякая ж з'ява мае тэндэнцыю развівацца. Дык ува штоператворыцца гэтая нервознасць у нас, пакуль памрэ? Зазірнуць у заўтра мне давялося таксама выпадкова ля адной камерцыйнай яткі.

Бабулька яўна не багатага выгляду схілілася ля акенца — ну не "Marlboro" ж купіць.

— Як гандаль, шаноўны,— пытаецца ў маладога хлопца.

— Ды патроху,— адказвае той.

— А рэкет не чапае?

— Пакуль не, дзякуй Богу.

— Вось бачыш, усе пад Богам ходзім. Падкінь крыху на жыццё старому чалавеку, а я за цябе памалюся.

— Не трэба за мяне маліцца, я і сам аб сабе пакуль дбаю.

— А ты не заракайся. Сёння дбаеш, а заўтра мо і не зможаш. Глядзі, да цябе пакуль не падыходзілі і не чапалі, дык трэба малітвай умацаваць такую боскую міласць... А чуў— надоечы за бліжэйшым скрыжаваннем ятка згарэла?..

Так яны размаўлялі даволі доўга, дэманструючы не толькі падсечаную цвёрдасць маладога камерсанта, але і настойлівую ўпэўненасць бабулькі. Стваралася ўражанне, што мо і сапраўды, калі бабулька адыдзе ні з чым, да яткі падваляць пяток дзябёлых хлапцоў і пакінуць там хіба мокрае месца.

Уражанне ўражаннем — яно можа быць і памылковае, але давялося мне пераканацца, што і даведзеныя да адчаю бабулькі могуць паказаць зубы (хоць свае, хоць не свае).

Пенсіянеры цяпер кінуліся і ў бізнес, перапрадаючы турэцкія пластыкавыя пакеты, якія цяпер сталі апошнім піскам моды. На плошчы Якуба Коласа я напаткаў дзядка, які прадаваў іх надта танна — па 2 тысячы.

— А чаму ж так далёка ад базара вас занесла,— запытаў я, купляючы.

— Ды бабы прагналі, што цэны ім збіваю. Кажуць:"Калі не падвоіш кошт, дык і шматкоў тваіх не пакінем".

Я прайшоў далей і ўбачыў, што такія ж пакеты на Камароўцы каштуюць і па 4, і па 5 тысяч. Прычым цэны вызначаюцца стабільнай дружнасцю, нібыта іх прызначае нейкі міністр нефармальнага стар-гандлю.

Зрэшты, бабульчына мафія пакуль яшчэ не такая жорсткая, як у пранырлівых маладзёнаў. Яны яшчэ церпяць роўную канкурэнцыю, не знішчаюць навічкоў, што прымаюць іхнія ўмовы, не змагаюцца за "падпарадкаванне тэрыторыі". Калі вы, прыпёршы з Турцыі дзесятак тых пакетаў, станеце побач з імі, яны вам яшчэ падкажуць не толькі "рэальны кошт", але і спосаб лоўлі купцоў. Толькі не збівайце ім цэны, хоць бы вам было выгадней і напалову меншая сума. У гэтым пенсіянерскім бізнесе цудоўна праяўляюцца рысы нашага дзікага рынку; калі ў барацьбе за сферу збыту прымаюцца любыя сродкі, акрамя зніжэння кошту.

Ізноў жа хочацца паўтарыцца: усялякая з'ява мае тэндэнцыю развіцця. З'явіўся бізнес, з'явіўся рэкет, потым — пенсіянерскі бізнес, пенсіянерскі рэкет. Не адстаюць ад працэсаў піянеры і школьнікі... Мо настаў час чакаць мафіёзнага аб'яднання немаўлятак у злачынныя структуры, ці ўсё ж пачнем думаць пра законы, на якіх магла б будавацца здаровая прававая дзяржава, дзе чалавек у росквіце гадоў меў бы выбар грамадска карыснай працы, дзе старому была б гарантавана спакойная старасць, а перасцерагацца пакутаў трэба было б толькі лайдаку ды прайдзісвету?

# КРЫНІЦЫ

Сяргей ЧЫГРЫН

### Мова

Мова мая з-пад сахі,
мова мая з-пад страхі,
ластаўкай лёгка лунае —
мне не патрэбна чужая.

Мова мая з-пад касы,
мова мая са слязы,
яркім бурштынам ззяе —
мне не патрэбна чужая.

Выткана мова на кроснах
і разаслана па вёснах,
у шчасці і ў горы зблізкае —
мне не патрэбна чужая.

Кожнае сэрца і хата
роднаю мовай багаты.
Вечная і святая...
Мне не патрэбна чужая.

### Прызнанне

Вербы над шчыраю Шчарай,
гушкаюць гнёзды гракоў.
Еду па шчасце, па мару,
еду зноў да землякоў!



Хаты блакітнымі вокнамі
вуліцу бачаць наскрозь...
З матчынай мовай,
з пеўнямі звонкімі
я на радзіме не госць.

Кожнаму дрэўцу,
травінцы з расою
я пакланюся здаля...
Песні з табою,
шчасце з табою,
родная сэрцу зямля!

### У хаце Л.Геніюш

Наведаў хатку, хоць і позна —
няма славутае паэткі!..
Замест гарбаты,
слоў і кроснаў —
тут толькі кнігі, толькі кветкі.

І абразы нібыта плачуць,
і мне ад горычы здаецца:
у цэркаўку пайшла, няйначай,
і затрымалася — ці ў сенцах?

І спудзіць цішыню баюся,
і не хапае гучных слоў...
Паэтка роднай Беларусі
тварыла моваю дзядоў.

У роднай хаце —
светлай, чыстай,
цярпець умела і чакаць;
адзеўшы свой
хвартух квяцісты,
гасцей любіла сустракаць...

Адкуль былі натхненне, сіла
і сэрца, поўнае турбот?..
Відаць, за нас мацней любіла
свой родны край
і свой народ.

**г.Слонім.**



Юрась ПІВУНОЎ



### Мая Беларусь

*Замалёўка*

...Што ёсць Беларусь? Кожнаму беларусу яна ўяўляецца па-свойму. Для мяне Беларусь пачынаецца з вёскі, дзе нарадзілася мая маці, дзе жыве да гэтага часу бабуля, дзе ў дзяцінстве я бавіў час летніх вакацыяў.

Клічаўшчына... Край хваёвых лясоў з прамежкамі бярозавых гаёў, паўнютківх баравікамі, махавікамі ды лісічкамі пад ялінкамі, балоцістых нізінаў з гронкамі палымяных журавінаў на зялёных купінах... Край прырэчных лугоў, дзе паважна ступаюць па мяккім дзірване квітнеючых красак белыя птушкі з чорнаю аздобаю на крылах. Гэта буслы — белыя рыцары беларускай зямлі.

Гарэза-вятрыска сваволіць у кронах бярозак, палахлівы асіннік шамаціць пад ягонымі цёплымі павевамі. Бяжыць у далячынь пяшчотная і ласкавая рэчка Даўжанка, буяюць зарасцем аеру і алешкі берагі, віруе-гуляе на плёсах у рачной траве рыба...

Як устанеш уранні — толькі сонца шчэ збіраецца выйсці і туман над ракою плыве, нібы малако, — ну, а хлопцы, зямлі беларускай сыночкі, ужо косы пяткашаць — кладзецца трава пад лязом.

Беларусь! Пачынаешся ты з Закуплення, з гэтай вёскі маленькай, мо будзе тут сотня двароў...

Беларусь! Для мяне ты купальская песня і рыпенне вясковых калодзежных жураўлёў...

Ды ці можна хіба прыгажосць усю выказаць гэтую і пачуцці, што поўняць душу зноў і зноў?!

Беларусь! Для мяне ты святая зямліца! Нібы родная маці, ты свецішся ласкай сваёй!



Уладзімір ЦІШУРОЎ

### Пытанні

Ці добра быць
дырэктарам
Таго выдавецтва,
дзе кніжка твая выдаецца?

Ці добра быць ляніўцу
сярод руплівцаў,
калі руплівцы
рупяцца
(як не рубяцца)
аб ляніўцы?

Ці добра маці,
што любіць гуляці,
калі дзяржава
выхаваці
бярэцца яе дзіцяці?

Ці добра парламентарыю,
што па разыгранаму сцэнарыю,
(прага да крэсла
мае тут месца)
узгробся ў Вярхоўны парламент,
народ даўно ўсчаў лямант,
а ён жа сядзіць, як калода,
і не можа даць рады народу —
ці добра такому народу?

Ці добра таму дзецюку,
дакладней — халасцяку —
жыць свой век — бабылём, з прычыны,
што ў вёсцы няма дзяўчыны?
і г.д.

* * *

Хто на сцежцы
жыцця майго сядзе:
чорны воран ці ты, галуба?
Была любай,
і стала любай,
і залежу я ад улады,
аднаго твайго толькі пагляду...

У тваім сэрцы
схавана сонца.
На старонцы,
пражытых мной дзён,
промні сонца твайго —
лепшы плён!

Хай жа б'юць з тваіх светлых вачэй
промні сонца ярчэй і ярчэй!

Іван МЯДЗВЕДЗЕЎ

### Каваль

Ён рухам, прывычным адмалку,
раскалены дачырвана
метал, бы дзівосную лялька,
кладзе на кувалку... Яна
гудзе пад раптоўным ударам
і падае рэзам да ног,
маланкамі іскры ля твару,
і ён пры святле іх, як Бог...

Усё ў яго зграбна і складна,
агонь яму — цар, не айчым,
і горача ў кузні, і чадна,
аднак яму ўсё ніпачым.



Куе ён зімою і летам,
куе ён штодня круглы год,
без кузні, задымленай гэтай

* * *

жыцця не ўяўляе свайго.

І ведае майстра акруга —
для славы меж не існуе;
ён вам адкуе лемех плуга
і нават блыху падкуе.

Ажывіць дзіцячую цацку,
падлечыць камбайн на жніве...
Даўно ўжо няма майго бацькі,
а памяць пра майстра жыве.



# ГІСТАРЫЁГРАФ

## Штурмавалі беларусы Ізмаіл

□ **Мікола КУЗНЯЦОЎ, Яўген КАЛЕСНІК**

Кілія, Тульча і Ісакча здаліся. Толькі Ізмаіл, магутная турэцкая фартэцыя, заставалася непахіснай. Між тым, набліжалася зіма, камандзіры пачалі пагаворваць пра зімовыя кватэры, адпачынак, перафарміраванне войск. Гэта было непажаданым, бо давала магчымасць туркам умацаваць свае пазіцыі, атрымаць дапамогу. Генерал Пацёмкін вагаўся. Адступленне магло выклікаць незадавальненне Екацярыны II, з'явіцца казырнай картай прыдворных інтрыганаў. Яны, безумоўна, абвінавацілі б яго ў баязлівасці, у абыякавасці да дзяржаўных інтарэсаў Расіі. А камандзіры дакладвалі:

— Канчаецца хлеб, няма дроў, мароз вышэй чым дваццаць градусаў...

Генерал-паручнік Павел Сяргеевіч Пацёмкін, стрыечны брат святлейшага, аж рыкаў ад роспачы. Было аб чым задумацца генералу! Войскі стаміліся, гэта так, але праўда была і ў тым, што ў генерала не хапала ваеннага таленту, каб узяць такую магутную цытадэль, як Ізмаіл.

Вядома, генерал Пацёмкін пацярпеў бы пад Ізмаілам паражэнне, вядома ж, паклаў бы пад ягонымі сценамі тысячы рускіх салдат і пакрыў бы сябе ганьбай, каб святлейшы своечасова не ўспомніў пра Суворава...

...Снежаньскай раніцай 1790 г. А.В.Сувораў прыняў камандаванне войскамі, што "тапталіся" перад турэцкай крэпасцю. Пацёмкін прадаставіў палкаводцу поўную свабоду дзеянняў. Разлік быў просты. Возьме Сувораў Ізмаіл — святло перамогі асвеціць і яго, Пацёмкіна, пацерпіць паражэнне... Усё ж не ён, Пацёмкін...

Сувораў жа не думаў пра інтрыгі. Перад ім непахісна стаяў Ізмаіл, і яго трэба было ўзяць, каб не зганьбіць славы рускай зброі.

Між тым, крэпасць была моцным "арэшкам". Яна стаяла на беразе Дуная. У ёй засела 35 тысяч салдат. Грозна паглядалі на рускія войскі каля двухсот гармат. Ізмаіл ахінаў глыбокі дванаццаціметровы роў. У асобных месцах ён на метр быў запоўнены вадой. Рускія войскі налічвалі 31 тысячу чалавек, было таксама 405 гармат.

Крэпасць можна было ўзяць толькі штурмам, неадкладным і рашучым. Сувораў прыняў рашэнне. Пачалася падрыхтоўка. Назапашваліся штурмавыя лесвіцы, ішло навучанне салдат баявым дзеянням. Некалькі дзён салдаты "бралі" штучныя крапасныя збудаванні, рыхтаваліся да ўзяцця Ізмаіла. Разам з усімі "бралі" непрыступныя сцены, пабудаваныя дзеля вучобы салдат па загаду Суворава, і батальёны Беларускага і Бугскага егерскіх карпусоў, а таксама ваяры Полацкага мушкецёрскага палка. І калі падрыхтоўка закончылася, Сувораў, упэўнены ў перамозе, паслаў туркам прапанову здацца, каб не праліваць лішняй крыві. "Сераскеру, старшинам и всему обществу. Я с войском сюда прибыл. 24 часа на размышление для сдачи — воля, первые мои выстрелы — уже неволя, штурм — смерть". Фанабэрысты камендант турэцкай крэпасці адказаў:

— Раней неба ўпадзе ў Дунай, чым рускія возьмуць Ізмаіл.

Гэта прадвызначыла штурм. 10 (21) снежня 1790 г. на світанку руская артылерыя пачала падрыхтоўку наступлення. Гарматы бесперапынна абстрэльвалі крэпасць увесь дзень і ноч. Значная колькасць турэцкіх гармат была знішчана. Ноч на 11 (22) снежня выдалася надзвычай цёмная. Гэта спрыяла планам Суворава. Пад яе покрывам у тры гадзіны ночы рускія войскі падступілі да цытадэлі. У пяць гадзін трыццаць хвілін па сігналу ракеты яны пайшлі на прыступ. Чацвёртая брыгада, у складзе якой дзейнічалі і беларускія ваяры, кінулася да Бэндэрскіх варот і, пераадольваючы знішчальны агонь янычараў, замацавалася на валу. Але праз пэўны час туркі, адчуваючы тут небяспеку, контратакавалі і прымусілі нападаўшых падацца назад. Сувораў своечасова ўбачыў небяспеку і выслаў на дапамогу полацкіх мушкецёраў.

Жорсткае супраціўленне нападаўшым аказалі туркі пры штурме Кілійскіх варот. Іх брала шостая калона, на чале якой стаяў М.І.Кутузаў. Бугскімі егерамі ён быў задаволены. Яны добра зарэкамендавалі сябе пад Ачакавам, ён не сумняваўся ў іх і тут, пад Ізмаілам. Верыў ім і Сувораў. Таму і даверыў Кутузаву самы важны і адказны ўчастак штурму. Ад бужцаў залежаў поспех усёй кампаніі.

Рашучым штурмам егеры Кутузава захапілі Кілійскі бастыён, але неўзабаве былі атакаваны туркамі. Адбылася замінка, небяспеку якой адчуў Сувораў. Ён паслаў да Кутузава ад'ютанта.

— Яго сіяцельства граф Суворaў-Рымнікскі прызначае ваша правасхадзіцельства камендантам Ізмаіла. Пасланы ўжо ганец да яе вялікасці аб узяцці крэпасці, — бадзёра далажыў той, Кутузаў зразумеў, што ад яго патрабуецца і, выцягнуўшы шпагу, далучыўся да егераў:

— Уперад, арлы! За мной, бужцы!

Бужцы не падвялі. Нягледзячы на моцны ружэйны агонь, яны прабіліся да фартэцыі, узнялі драбіны, па якіх пачалі ўзбірацца на сцены.

У адзін з момантаў бою склалася цяжкая сітуацыя для данскіх казакоў, што прасекліся на крапасны вал, але замарудзіліся. Гэта адразу ж выкарысталі янычары. Праз раптоўна адчыненыя Бэндэрскія вароты яны з гіканнем рынуліся на казакоў. Сувораў заўважыў небяспеку. Ён загадаў вылучыць з рэзерву на выручку казакам два батальёны Полацкага палка:

— Выручайце, братцы, казакоў. Сячы басурмана...

Мушкецёры рушылі проста ў агонь, такі жорсткі завязаўся бой. У самым пачатку атакі здарылася бяда: загінуў камандзір палка. Былі перабіты іншыя афіцэры. Мушкецёры разгубіліся. І раптам пачулі голас палкавога свяшчэнніка Куцынскага, які прыняў на сябе камандаванне батальёнамі. Удзельнік штурму Бэндэр, Ачакава і Кіліі, ён у рашучы момант бою падняў над галавой вялікі палкавы крыж:

— Праваслаўныя, не паддамося басурманам. Наперад, з намі вера Хрыстова!..

Не маючы пад рукой зброі, Трафім Ягоравіч дзейнічаў крыжом, як шабляй, мушкетам... Мушкецёры, акрыленыя Куцынскім, дружна ўдарылі ў штыкі...

Ізмаіл быў узяты.

Сувораў у сваім данясенні адзначаў подзвіг бугскіх егераў, якія "невзирая на всю жестокость огня неприятельского во время приближения ко рву и на урон, от него происходящий, успели лестницы донести и мгновенно в своем месте поставили. Батальоны Бугского корпуса... под сильным картечным и ружейным огнем во время приближения к бастиону удержались в порядке. Поспешность и стойкость их была удивительна".

Не забыў адзначыць Сувораў і подзвіг свяшчэнніка Полацкага мушкецёрскага палка, узнагародзіўшы яго Георгіеўскім крыжам. Трафім Ягоравіч Куцынскі быў першым свяшчэннікам рускай арміі, які ўдастоіўся гэтай пачэснай узнагароды.

Але самай высокай узнагародай мужнаму свяшчэнніку было даручэнне Суворава, дадзенае Куцынскаму пасля ўзяцця Ізмаіла.

— Скажыце Полацкаму папу, каб у гонар перамогі рускай мячэць ва ўзятым Ізмаіле асвяціў...

Не пакінула без увагі Куцынскага і Екацярына II, падараваўшы свяшчэнніку-ратніку пажыццёвую пенсію ў 300 рублёў.

Павел I, атрымаўшы трон у спадчыну, перагледзеў матчына рашэнне: у божага слугі адабралі і Георгіеўскі крыж, і царскую пенсію. Нашчадак трону ва ўсім імкнуўся перайначыць маці, помсцячы за ганебную распушчанасць і забойства бацькі — імператара Пятра III.

Але гісторыя непадуладна царам. Яна захоўвае, перадае ўсё новым і новым пакаленням праўду былога...

